*Я збіраю шарыкавыя аўтаручкі.*

*Чалавеку, які ніколі не збіраў аўтаручак, — а такіх сярод нас пераважная большасць, — мой занятак хутчэй за ўсё падасца звычайным дзівацтвам, але сапраўдныя калекцыянеры мяне зразумеюць.*

*Дарэчы, гэта вельмі важна: знайсці свой аб'ект пакланення. Вядомы беларускі гісторык і археолаг Тэадор Нарбут, той самы, які адшукаў у Старым Быхаве адну з першых хронік XVI стагоддзя, ведаў: нават толькі што выкапаныя старажытныя манеты бываюць халодныя і — значна радзей — цёплыя, і калі менавіта цёплую манету прыцісnуць да цела, то неўзабаве на ім можна будзе ўбачыць адбітак таго, што было на самой манеце.*

*А мой добры знаёмы, Уладзімір Ліхадзедаў, які мае найбагацейшую на Беларусі калекцыю старадаўніх паштовак з выявамі беларускіх гарадоў і мястэчкаў, перакананы, што калі доўга глядзець на іх, то час, застылы на паштоўках, можна прымусіць зрушыцца з месца.*

*Але калі ў вашай далоні старажытная манета вам не здаецца нашмат цяжэйшай, чым ёсць на самай справе, і вашым пальцам не робіцца холадна, калі яны дакранаюцца да старой паштоўкі з выявай заснежанага Полацка альбо Менска, то вам лепш збіраць нешта іншае, ці ўвогуле нічога не збіраць — у свеце шмат цікавых заняткаў і без гэтага.*

*Я ж збіраю шарыкавыя аўтаручкі.*

*Я пісьменнік, і даўно зразумеў, што кожнаму твору патрэбна свая, асобная, скажам так, прыла-*

*да працы. Часам даводзіцца перабраць добры тузін аўтаручак, каб нарэшце знайсці патрэбную, якую пры пісьме зусім не адчуваеш, быццам яна — частка тваёй рукі.*

*Я пішу марудна, шмат крэслю, але пасля таго, як тэкст з'яўляецца ў друку, больш ужо не ўношу ў яго ніводнай праўкі. А каб усё ж не з'яўлялася спакусы нешта ў ім паправіць, я праводжу — як правіла, гэта адбываецца на лецішчы — творчае ахвярапрынашэнне: спальваю аўтаручку на спецыяльна разведзеным для гэтай мэты вогнішчы. Таму мая калекцыя ўвесь час абнаўляецца.*

*Праўда, ёсць адна аўтаручка, якая захоўваецца ў мяне ўжо дваццаць гадоў, і якой я цяпер пішу гэтыя радкі. Мне дасталася яна яшчэ ў 1985 годзе ад маёй школьнай настаўніцы Таццяны Антонаўны Высоцкай, Танечкі, як мы яе ўсе за вочы называлі, у якую я, васьмікласнік, быў закаханы.*

*— На, пішы маёй, — сказала яна, калі мая спісалася, і дадала з іроніяй, спецыяльна для ўсяго класа: — Што гэта за паэт, у якога няма чым пісаць?!*

*— Я разлічваю на сваю памяць, — буркнуў я і адчуў, што чырванею. Мне ўвогуле не падабалася, калі мяне называлі паэтам — няхай сабе гэтым часам хацелі і пахваліць. А пачуць такое ад яе, ды яшчэ з іроніяй...*

*— Ну і дарэмна разлічваеш. Інакш па біялогіі ў цябе былі б лепшыя адзнакі.*

*— Відаць, вам з ім трэба вечарам праводзіць дадатковыя заняткі, — хіхікнуў у мяне за спінай Валік Пранчук.*

*— Я сама ведаю, што мне трэба, а што не, — сурова сказала яна. — Усё, цішыня, запісваем дамашняе заданне!*

*Пасля таго, як празвінеў званок, я падышоў да яе і працягнуў аўтаручку.*

*— Можаш пакінуць яе сабе. У цябе яшчэ чатыры ўрокі.*

*Гэта можна было зразумець як дазвол пакінуць аўтаручку сабе на памяць. Дома я дастаў яе з партфеля і ніколі больш не браў у школу, каб выпадкова не згубіць, не зламаць і каб на ўроку біялогіі не было няёмка за тое, што пішу чужой аўтаручкай.*

*Гэта была першая і доўгі час адзіная аўтаручка ў маёй калекцыі, якая дваццаць гадоў чакала свайго часу. Амаль столькі ж я не бачыў Танечку, хоць не раз успамінаў пра яе.*

*Сёлета, у канцы лютага, пасля школьнай сустрэчы з выпускнікамі, калі ўсім класам мы сядзелі ў рэстаране і згадвалі школьныя гады, настаўнікаў, у тым ліку, і яе, Танечку, у кожнага былі свае ўспаміны, свае гісторыі і, здавалася, у кожнага з нас у школе была свая Танечка.*

*Я складаў гэтыя ўспаміны ў адно цэлае, нібы збіраў мазаіку, і нарэшце іх ува мне назбіралася гэтак шмат, што мінулае мне пачало здавацца больш блізкім і больш рэальным, чым цяперашняе. Гэтае мінулае і было Танечкай.*

*Я падумаў, што пра яго трэба абавязкова напісаць, і павёз яго з сабою ў Мінск, усю дарогу адчуваючы, як яно робіцца ўсё меншым, вызваляючы ў душы месца для іншых думак і пачуццяў, пагражаючы зусім пакінуць мяне. Але я быў перакананы, што як толькі дома дастану са сваёй калекцыі яе аўтаручку, яно зноў перапоўніць мяне. Мне і ў галаву не магло прыйсці, што за дваццаць гадоў паста ў стрыжні высахне. Да ўсяго, іншыя стрыжні, якія я ўстаўляў у ручку, пры пісьме хісталіся, і словы таксама атрымліваліся хісткімі, чужымі, быццам іх пісаў нехта іншы, а значыць, чужую, не маю гісторыю.*

*Мне не заставался больш нічога, як адкласці пісанне, выдатна разумеючы, што можа прайсці няма-ла часу, перш чым я зноў вярнуся да гэтай гісторыі. А можа, і не вярнуся да яе ніколі. Я адчуваў, як ува мне пачынае расці абыякавасць да яе. І калі амаль праз паўгода мой сябра пісьменнік Барыс Пятровіч, вярнуўшыся з Польшчы, са словамі: «Ён ідэальны для еўрапейскага пісьменніка, бо аб'ём чарніла ў ім вызначае самы прымальны для еўрапейскага чытача памер рамана», падарыў мне стрыжань, які — нарэшце — падышоў да маёй аўтаручкі, я падумаў, што гэта здарылася, відаць, надта позна.*

*І ўсё ж цяпер, у гэтыя хвіліны (калі вам, дарагія чытачы, цікава, — мой гадзіннік паказвае 00.43, а настольны каляндар сведчыць, што сёння 18 лістапада 2005 года), я сяджу за сваім рабочым сталом і пішу радкі, якія вы зараз чытаеце, і ў руцэ*

*маёй аўтаручка з польскім стрыжнем, якога, як лічыць Барыс Пятровіч, якраз хапае на напісанне самага ідэальнага па сваім памеры рамана. Праўда, у мяне будзе не раман, а хутчэй за ўсё, невялікая аповесць, і вярнуцца да яе мне дапамог адзін выпадак, які здарыўся са мной на мінулым тыдні.*

## 1

Я стаяў на аўтобусным прыпынку, і злева ад мяне пахла вёскай, а справа — горадам. Злева стаялі драўляныя хаты з агародамі, на якіх ужо ўсё выбралі і цяпер палілі ссохлы бульбоўнік. Справа ціснуліся адзін да аднаго панельныя і цагляныя дамы. Я думаў пра тое, што чалавеку, які свае першыя семнаццаць гадоў пражыў у маленькай вёсцы, а потым столькі ж часу — у сталіцы, наступныя семнаццаць гадоў найбольш камфортна павінен адчуваць сябе ў такім вось невялікім горадку, дзе ў роўнай ступені можна адначасова быць і гараджанінам, і вяскоўцам. Гэтая думка так захапіла мяне, што, здавалася, ужо не яна жыве ўва мне, а я ў ёй, не бачачы, што ў гэты момант адбываецца навокал.

Таму я нават не заўважыў, з якога боку яна падышла — з таго, адкуль пахла вёскай, ці з таго, адкуль пахла горадам. Я пазнаў яе адразу, хоць мінула ўжо дваццаць гадоў, як мы не бачыліся. Не скажу, што за гэты час яна зусім не змянілася, але я столькі разоў успамінаў яе, і ўсе гэтыя гады яна паступова старэла, таму што нашы думкі, як вядома, з часам таксама старэюць. Мы глядзелі адно аднаму ў вочы, і па яе вачах я зразумеў: яна таксама пазнала мяне, але гэта не прынесла ёй ніякай радасці.

— Добры дзень, — сказаў я і адчуў, як скура на маім твары расцягваецца ў блазенскай усмешцы. Мне заўсёды здаецца, што калі я, у прыступе хвалявання, альбо адчуваючы сваю віну, усміхаюся некаму, у мяне атрымліваецца блазенская ўсмешка. Цікава, ці такой жа ўспрыняла яе тая, каму я ўсміхаўся? — Вы мяне пазналі?

(Калі б я ведаў, што захачу гэты наш з ёю дыялог — слова ў слова — уключыць у сваю аповесць, то, несумненна, прыдумаў бы больш арыгінальнае пытанне).

— Пазнала, — сказала яна дастаткова суха, каб зразумець, што нават праз дваццаць гадоў не хоча рабіць выгляд, быццам ёй прыемна мяне бачыць.

— Відаць, вы на мяне тады моцна пакрыўдзіліся, і не можаце даравацьпа сённяшні дзень…

— Я вас тады ўзненавідзела.

Здавалася, цэлых дваццаць гадоў яна чакала моманту, каб кінуць мне ў твар усяго чатыры словы. Але я крыху памыліўся, гэтага ёй было мала. Яна адвяла позірк і дадала:

— І думаю, з таго часу мала што змянілася ў маіх адносінах да вас.

Да прыпынку, на якім мы стаялі толькі ўдваіх, падышоў гарадскі аўтобус, «лазік» — адзіны на ўвесь райцэнтр.

Яна спакойна, з пачуццём уласнай годнасці ўвайшла ў аўтобус, відавочна, упэўненая, што я не зайду следам. Старэнькі «лазік» цяжка крануўся з месца, аддаляючы ад мяне маю школьную настаўніцу біялогіі, якую я не бачыў дваццаць гадоў.

Як вядома, калі, вяртаючыся ў думках у сваё мінулае, усіх, з кім тады сутыкаліся, мы можам візуальна ўспомніць, то саміх сябе можам толькі ўявіць. Але паколькі нашы ўяўленні больш абапіраюцца на фантазіі, чым на рэальныя падзеі, то і даверу ім асаблівага няма. Не, я, напрыклад, не сумняваюся, што дваццаць адзін год таму менавіта Сяргея Васілевіча, вучня восьмага класа Федзюковіцкай сярэдняй школы, напачатку верасня тэхнічка злавіла ў гардэробе за руку, калі гэтая рука была засунута ў кішэню паліто яго аднакласніцы Наташы Грынкевіч. Але мне з кожным годам усё цяжэй верыць, што тым Сяргеем Васілевічам быў я.

І калі, перабіраючы фотаздымкі таго часу, я гляджу — вочы ў вочы — на сябе самога, мне міжволі здаецца, што той Сяргей і зараз жыве там, у часе, які застаўся на фота. І мы нічога не ведаем пра цяперашняе жыццё адно аднаго, і, можа быць, у гэтыя хвіліны ён таксама ўспамінае сябе ранейшага, і, магчыма, якраз такім, якім я сябе ўжо не памятаю. Таму нават у сваіх успамінах мы з ім пражываем розныя жыцці, нібы зусім чужыя адно аднаму. Хоць каму, як не мне, да драбніц ведаць рысы яго характару, яго самыя інтымныя мары і жаданні. Каму, як

не мне, ведаць, ***што*** дваццаць гадоў таму ён рабіў у школьным гардэробе, калі яго з рукой, засунутай у кішэню курткі Наташы Грынкевіч, убачыла тэхнічка, пра што да сённяшняга дня я нікому ніколі не расказваў, нават самой Наташы.

Вінoй усяму была яго ўлюблівасць — адна з праяў незвычайнай адчувальнасці прыгажосці ўвогуле. І калі аднойчы на ўроку геаграфіі яго класная сказала яму: «Сярожа, ну хіба можна піхаць дзяўчынку? Ты паглядзі, якая яна прыгожая!», ён кінуў позірк на сваю суседку па парце, Наташу Грынкевіч, і пагадзіўся, што яна і праўда вельмі прыгожая. Праз тыдзень ён ужо бачыў яе не толькі ў школе, але і ў снах, а праз паўгода ён амаль што стаў яе ўласнасцю, нават не здагадваючыся пра гэта.

Ён сяк-так пражыў летнія канікулы без яе, а напачатку верасня адбылася тая непрыемная гісторыя ў гардэробе.

Пачатак верасня быў дажджлівым, і нават старшакласнікі хадзілі ў школу ў верхнім адзенні. Яна другі год насіла сінюю балоневую куртачку з капюшонам, некалі вялікаватую, а цяпер, наадварот, кароткую ў рукавах. У восьмым класе ўжо кожны сам вырашаў, з кім яму сядзець за адной партай. Вядома, ён хацеў бы зноў сядзець з ёю і знарок зайшоў у клас апошнім з хлапцоў, спадзеючыся, што яны да гэтага часу разаб'юцца па парах, але ***яго*** месца ўжо заняла Іра Скакун. Канешне, ён захацеў нерэальнага і дакараў сябе за тое, што, наадварот, не зайшоў у клас першым, каб хоць паспрабаваць заняць месца на суседняй парце: цяпер і гэта было немагчыма.

Калі ён праходзіў міма, іх позіркі сустрэліся, яна яму ўсміхнулася, ад чаго на сэрцы стала хораша, але адначасова і яшчэ больш сумна. У яго кішэні была жменька карамелек. Спачатку ён думаў проста пачаставаць яе, але, пакуль цягнуўся ўрок, яму ў галаву прыйшла ідэя: ён непрыкметна пакладзе цукеркі ў кішэню яе курткі. Яна знойдзе іх па дарозе дадому і, вядома ж, здагадаецца, хто іх туды паклаў, і назаўтра пры сустрэчы яны зноў усміхнуцца адно аднаму, толькі больш загадкава, бо цяпер паміж імі будзе адна маленькая таямніца. І тады ён зноў пакладзе ёй у кішэню цукеркі, а лепей, што-небудзь іншае, таксама смачнае, ці проста прыемнае, каб

гэта зноў стала для яе нечаканасцю. Толькі што? І дзе яго ўзяць, калі пра іх сям'ю гаварылі, што яны ў сне больш наядаюцца, чым вечарам за сталом.

На перапынку ён збег з трэцяга паверха ўніз, у гардэроб і, узрадаваны, што там нікога не было, знайшоў яе сінюю балоневую куртку і сыпануў у кішэню ўсе свае карамелькі. І толькі пасля гэтага падумаў, што адна карамелька была без абгорткі, што ад яе можа зліпнуцца кішэня. Ён хутчэй засунуў руку назад, каб дастаць яе, але... цукерак там не аказалася. У кішэні была досыць вялікая дзірка, якая імгненна праглынула іх, не зважаючы на тое, у абгортках яны ці без. Ён сунуў руку ў гэтую нябачную пашчу: вось адна цукерка, другая, трэцяя... Колькі іх было ўсяго?

І тут ён пачуў за спінай голас тэхнічкі:

— Ты што гэта па чужых кішэнях лазіш?!

Ён цярпець не мог тэхнічку, настолькі маленькую, што яе бруднай анучы для мыцця падлогі не баяліся нават першакласнікі, і, разумеючы, што нізавошта не скажа ёй праўду, быў прыніжаны тым, што менавіта яна ўбачыла яго тут і лічыць злодзеем. Самае страшнае, калі яна ведае, чыя гэта куртка, і зараз усё раскажа Наташы. Але тэхнічка сказала:

— А ну, пайшлі да дырэктаркі!

Ён адчуў палёгку. Дырэктарка наўрад ці паверыць, што ён злодзей, хоць і ёй сказаць усю праўду ў яго не хопіць смеласці.

## 2

Робячы чалавеку зло, мы вінаватыя перад ім да таго часу, пакуль ён пра гэта памятае, але адчуваем сябе вінаватымі, пакуль памятаем пра гэты ўчынак самі. Зло — грэх, але калі перад Богам мы замольваем свае грахі малітвамі, то на зямным судзе памяць — адзіны суддзя, і яна ж — адзіная мера віны. Прычыніце чалавеку боль, а потым двойчы зрабіце яму дабро: ён даруе вам, але пакуль будзе памятаць пра прычынены боль, вы будзеце перад ім вінаватыя.

Вядома, думаў я, стоячы на аўтобусным прыпынку, усё яшчэ аглушаны апошнімі словамі маёй былой на-

стаўніцы, толькі той, хто крыўдзіць, бачыць розніцу паміж крыўдай, прычыненай ад кахання, і крыўдай, прычыненай ад нянавісці. Але няўжо тое кепскае, што я зрабіў Танечцы, за дваццаць гадоў не толькі не забылася, а ўсё яшчэ прымушае яе ненавідзець мяне? Кожнай віне ёсць свая цана, але нянавісць — цана занадта вялікая.

І тут мне ў галаву прыйшла ўратавальная думка: унутрана, недзе нават падсвядома, я лічыў, што Танечка мусіць мне ўсё даравацъ таму, што я, яе вучань, стаў даволі вядомым чалавекам, якім настаўнікі ***павінны ганарыцца***. Але аказалася наадварот: чым большай была мая вядомасць, тым больш яе гэта раздражняла. Мы не бачыліся дваццаць гадоў, і ўсе гэтыя дваццаць гадоў я заставаўся тым, хоць і закаханым, але непаслухмяным і часта даволі нахабным у сваіх паводзінах перад ёю вучнем.

Сёння я прыехаў у горад, каб знайсці свайго аднакласніка, які запрасіў мяне выступіць у школе, дзе ён працаваў настаўнікам. Мне хацелася папярэдне абгаварыць з ім нюансы гэтага выступлення, якое было не зусім звычайным: у яго класе здарыўся надзвычайны выпадак, і замест таго, каб гэтым займалася калі не міліцыя, то якая-небудзь камісія па справах непаўналетніх, павінен буду займацца я. Смешна, хоць і прыемна, што недзе яшчэ разлічваюць на тое, што пісьменніцкае слова можа мець нейкую вагу і нешта вырашаць. Тыдзень таму я выступаў у адной з мінскіх школ і расказваў васьмі… — проста містыка нейкая! — васьмікласнікам пра добрае, чыстае, вечнае, а пасля, ужо на школьным ганку, дзяўчынка, якая паўгадзіны таму, седзячы за пярэдняй партай, уважліва слухала мае вершы, падышла да мяне і папрасіла закурыць. Не ведаю, можа, сёння васьмікласнікі просяць закурыць і ў настаўнікаў, і наадварот — настаўнікі ў васьмікласнікаў. Я не ведаю сучасную школу, асабліва старэйшыя класы, таму не люблю перад імі выступаць. Нават крыху баюся іх, бо не ўяўляю, як перад імі трымацца, што ім гаварыць. І зусім не ведаю, што буду гаварыць заўтра…

Я думаў так, стоячы на аўтобусным прыпынку, і ад гэтых думак нават пачаў крыху раздражняцца, разумеючы, што віною таму — Танечка.

Я вырашыў не ісці ў горад, а пехатой вярнуцца дадому, у сваю вёску, да якой было чатыры кіламетры. Я баяўся, што ў горадзе выпадкова магу зноў сустрэцца з Танечкай, чаго б мне цяпер больш за ўсё не хацелася. Я ведаў, што ўжо ніколі не буду ўспамінаць пра сваё каханне да яе з той пяшчотай, як гэта было заўсёды. А значыць, сёння яна дамаглася куды большага, чым, напэўна, хацела.

Я падумаў пра васьмікласніка, якога павінен быў заўтра, падчас свайго выступлення, асудзіць, і мне раптам стала шкада яго, хоць мы былі зусім незнаёмыя.

— Тут адзін васьмікласнік хацеў настаўніцу з дапамогай Інтэрнета шантажыраваць, — сказаў мой былы аднакласнік па тэлефоне, запрашаючы мяне прыехаць выступіць у школе.

— Ого, — засмяяўся я, — шантаж з выкарыстаннем найноўшых тэхналогій! Відаць, здольны хлопчык. Можа, ён, калі вырасце, стане знакамітым праграмістам?!

— Усё не так проста. Настаўніца напісала заяву на звальненне.

Я ішоў дадому па ўзбочыне дарогі, па якой у дзяцінстве хадзіў так часта, што цяпер непазбежна патрапляў у свае сляды.

Я думаў пра хлапчука, якому заўтра павінен буду нешта гаварыць пра мараль і добрыя паводзіны ў школе.

У сваім уяўленні я маляваў яго партрэт, які, у выніку, чамусьці аказаўся копіяй майго школьнага партрэта, вядомага мне па старых фотаздымках. Русыя, крыху непаслухмяныя валасы, за якімі амаль не відаць вушэй, нос крыху кірпаты, вялікія вочы. Толькі ён, вядома, у адрозненне ад мяне, заўсёды пры грашах, раз у восьмым класе мае мабільнік з фотакамерай.

Я паспрабаваў уявіць, як ***гэта ўсё*** адбылося.

Сёлетні верасень быў цёплы, і яна прыйшла ў школу, апранутая даволі лёгка. Ёй дваццаць тры гады, і яна пакуль ніяк не можа прывыкнуць да строгіх касцюмаў, хоць дырэктар аднойчы ўжо, магчыма, і зрабіў ёй заўвагу. Зрэшты, дырэктар як-ніяк мужчына, і яшчэ не стары — яму толькі крыху за сорак.

Яна зайшла ў клас, абвяла васьмікласнікаў уважлівым, крыху напружаным ад хвалявання позіркам, якое старалася схаваць ад класа за сваёй усмешкай.

— Добры дзень.

Усе ўсталі, апроч яго.

— Ого, — разглядваючы яе з ног да галавы, сказаў ён дастаткова гучна, каб яна пачула.

Магчыма, гэта было па-дзіцячы выказанае захапленне, якое яна прыняла за фамільярнасць.

Ён сядзеў, крыху адкінуўшыся на спінку парты, і яна адразу зразумела, што з ім будзе цяжэй, чым з кім, асабліва калі яна не паставіць яго на месца адразу, з першага ўрока.

— На жаль, мяне не папярэдзілі, што ў восьмым класе ёсць калека, які не можа падняцца, калі заходзіць настаўнік.

Напэўна, трэба было адрэагаваць на яго ўчынак неяк па-іншаму, падумала яна. Вось так: «Спадзяюся, гэтаму маладому чалавеку гэтак жа не будзе хацецца ўставаць з-за парты, калі празвініць званок на перапынак!» А можа, на першы раз увогуле трэба было зрабіць выгляд, што яна нічога не заўважыла.

— А яго ў радзільным доме выпусцілі з рук!

Яшчэ адзін паяц, падумала яна, адшукаўшы вачыма на «галёрцы» яго сябрука: у кожнага «героя» ёсць такія «збраяносцы», якім яны дазваляюць так выказвацца пра іх узамен за верную службу. З імі якраз даволі проста, яны падсвядома адчуваюць свае другасныя ролі не толькі на вуліцы, але і на ўроку ў адносінах з настаўнікамі.

— Сядайце, — сказала ўсяму класу і тут жа звярнулася да яго: — А вас, малады чалавек, я ўсё ж прашу ўстаць і выйсці. Да дошкі.

— А што мне там рабіць? Нам жа яшчэ нічога не задавалі, — здзівіўся ён.

— Паверце, я знайду для вас работу.

Ён выходзіў упэўнена. Двойку яна яму ўсё роўна не паставіць, гэта факт — яны яшчэ не праходзілі ніводнай тэмы, а больш яму баяцца няма чаго.

— Скажы, калі ласка, якія творы беларускай літаратуры ты прачытаў за лета?

— А нам нічога не задавалі.

— Ну, ты не спяшайся адказваць за ўсіх. Табе не задавалі, а ўсім астатнім, можа, якраз і задалі.

— Тады ў іх і пытайце.

— Я спытаю. Але мне хацелася б ведаць, наколькі ты цікавішся літаратурай, што чытаеш, ці запісаны ў гарадскую бібліятэку.

— Я чытаю ў Інтэрнеце. Кніга ўвогуле хутка сваё аджыве.

— Вось як. Ну, і што ж ты чытаеш у Інтэрнеце?

— А ён не чытае, а карцінкі ўсялякія глядзіць!

Зноў голас таго кірпатага. Яна ўжо вызначыла гэта, не паварочваючы ў той бок галавы.

— А ў Інтэрнеце няма беларускай літаратуры.

— Няўжо? Нават Купалы і Коласа?

Ён адразу не знайшоўся, што адказаць, бо, сапраўды, ніколі не трапляў на сайты, прысвечаныя беларускай літаратуры, але, з іншага боку, ён не раз чуў, што ў Інтэрнеце ёсць усё.

Яна не магла не скарыстаць гэтую паўзу.

— Запомні: для таго, хто хоча мысліць, хто хоча стаць больш разумным, — Інтэрнет незаменны памочнік, а гультаям ён толькі шкодзіць. Сядай! — І не чакаючы, пакуль ён сядзе: — Ну, хто з класа ўсё-ткі знайшоў летам час, каб узяць у рукі кнігу?

Яна закранула яго самалюбства. Калі б ёй было сорак ці пяцьдзесят, ён усё гэта ўспрыняў бы як належнае, але ёй было дваццаць тры, па ўзросце яна магла б быць яго старэйшай сястрой, а старэйшых сясцёр у восьмым класе ўжо не хочацца слухацца. Да таго ж, яна была прыгожая, ён яшчэ не ўсведамляў, што менавіта гэта прымушае яго больш за ўсё раздражняцца.

Яго ўжо не цікавіў урок. Ён не слухаў сваю аднакласніцу, якая, выйшаўшы да дошкі, бойка расказвала, што чытала летам, і было падобна на тое, што яна прачытала ўсю сусветную класіку, можа, нават да канца не разумеючы, якую вялікую паслугу ў гэты момант робіць новай настаўніцы. Тая з цікавасцю яе слухала, унутрана ўжо гатовая да таго, што дзяўчынка зараз пачне на памяць чытаць ёй вершы Купалы, якія яны будуць праходзіць яшчэ праз некалькі месяцаў. Яна павярнулася ў крэсле да яе ўсім корпусам, не ўсведамляючы, што цяпер яе калені, не прыкрытыя кароткай спаднічкай, глядзелі ў яго бок, і ён утаропіўся на іх з першага ад дзвярэй рада, а пасля, непрыкметна для яе, дастаў з кішэні мабільнік.

У гэты момант я таксама глядзеў на яе — але і твар, і валасы, і грудзі, і рукі, і калені ў яе былі Танеччынымі. Яна быццам вырашыла неадчэпна быць са мной паўсюль, пачаўшы з таго, што прымала вобраз жанчын, якіх я маляваў у сваім уяўленні, пагражаючы з часам замяніць сабою жанчын рэальных.

Хоць, па-шчырасці, яна мроіцца мне з таго часу, як...

## 3

...з таго часу, як, адчуваючы, што ў яго гарацьшчокі, прычым, чамусьці правая пякла больш, а левая менш, быццам па правай якая-небудзь дзяўчына наводмаш ударыла далонню, а ў левую пацалавала, Сяргей Васілевіч падымаўся на другі паверх, у кабінет дырэктаркі, а следам за ім ішла тэхнічка.

Дырэктарка сядзела за сталом, а побач з ёй стаяла незнаёмая яму дзяўчына. Спыніўшыся ў дзвярах, ён, забыўшыся на тое, што пяць хвілін назад здарылася ў гардэробе, заварожана глядзеў на яе, глядзеў, і разам з тым не бачыў, таму што хацеў ахапіць позіркам зараз яе ўсю — ад залацістых валасоў, што ледзь краналіся плячэй, да ног, вышэй каленяў схаваных пад белай спаднічкай. У кабінеце стаяў водар духоў, якога ў іх школе раней ніколі не было, іначай ён бы яго абавязкова запомніў.

— Міхайлаўна, прабачце, вось прывяла злодзея. У гардэробе лазіў па чужых кішэнях.

Яму трэба было нешта гаварыць, апраўдвацца, але нехта нябачны схапіў яго за горла так моцна, што стала цяжка дыхаць. Апускаючы вочы, каб не сустрэцца з ёй позіркам, ён усё ж паспеў убачыць на яе твары здзіўленне і нават, як яму здалося, пагарду. Ён маўчаў, спадзеючыся, што дырэктарка скажа: «Гэтага не можа быць!», і тады ён з палёгкай уздыхне і, можа нават усміхнуўшыся, пацвердзіць: «Няпраўда! Я ніколі ні ў кога нічога не краў».

Але дырэктарка сказала:

— Добра, мы потым пра гэта пагаворым. Ідзіце, пара ўжо званіць на ўрок.

— Ой божачкі, і праўда! — усклікнула тэхнічка і выбегла з кабінета. Пра пачатак і канец урока яна абвяшчала, становячыся на зэдлік, які кожны раз прыносіла са свайго пакойчыка, і націскаючы на кнопку званка, што тырчэла ў сцяне калідора на першым паверсе, паміж вялікімі карцінамі мясцовага мастака і настаўніка малявання Івана Раманавіча Шакуры. Яго карціны віселі на ўсіх паверхах. Гэта былі пейзажы, на якіх навакольныя палеткі, лясы і вёскі ўгадваліся з цяжкасцю, у пэўнай ступені застрахоўваючы аўтара ад самапаўтораў у мастацтве. Ён спрабаваў пісаць партрэты знакамітых пісьменнікаў, але пасля таго як нават настаўніца беларускай літаратуры не адразу прызнала на яго партрэце Янку Купалу, Івану Раманавічу (за вочы — проста Раманавічу) давялося задавольвацца маляваннем адных пейзажаў.

Празвінеў званок. Другім урокам у восьмым класе была біялогія.

— У нас новая біялагіца, маладая, — сказала Ларыса Шацько, якая ведала ўсё пра ўсіх настаўнікаў, таму што яе маці ў федзюковіцкай школе вяла пачатковыя класы.

Пра тое, што Алачка, папярэдняя настаўніца біялогіі, летам у свае трыццаць нарэшце выйшла замуж і пераехала да мужа ў Баранавічы, ведалі многія. Яе ўсе вучні любілі — у тым ліку і за тое, што на кантрольных давала магчымасць спісваць, што не ставіла двойкі за нязробленае дамашняе заданне — замест яе ставіла ў класным журнале кропачку, і гэта азначала, што яна абавязкова выкліча на наступным уроку.

Зразумела, з-за гэтага яе прадмет у многіх у школе быў запушчаны, таму цяпер усе з трывогай чакалі, як павядзе сябе новая настаўніца.

Хвіліны праз дзве пасля званка дзверы класа расчыніліся, і паступова кабінет пачаў напаўняцца водарам духоў, які дагэтуль тут нікому не быў знаёмы.

— Добры дзень, — сказала дырэктарка, і клас устаў дружна, за выключэннем аднаго вучня, які падняўся не адразу і вельмі неахвотна.

— З гэтага года ў вас будзе новая настаўніца біялогіі. Завуць яе Таццяна Антонаўна.

— Добры дзень. — У новай настаўніцы быў хоць і ціхі, але дастаткова ўпэўнены голас.

Калі дырэктарка выйшла, яна накіравалася да стала, узяла ў рукі класны журнал і сказала:

— Ну што, будзем знаёміцца. Антановіч Света...

Пятым па спісе быў Сяргей Васілевіч.

— Здаецца, мы ўжо сёння бачыліся.

Магчыма, у яе голасе і не было ніякай прыхаванай насмешкі, але ён успрыняў гэтыя словы менавіта так.

Яму хацелася як мага хутчэй даказаць ёй, што ён не такі, як яна пра яго думае. На кожны яе ўрок ён прыходзіў старанна падрыхтаваным, але за месяц яна ні разу яго не выклікала. І калі ў адным з кастрычніцкіх нумароў газеты «Піянер Беларусі» надрукавалі цэлую падборку яго вершаў, ён ухапіўся за іх, як за выратавальную саломінку. Ледзь толькі пачаўся ўрок біялогіі, ён разгарнуў газету, усяляк стараючыся прыцягнуць да сябе Танеччыну ўвагу. Нарэшце яна зрабіла яму заўвагу, але праз хвіліну ён зноў стаў шамацець старонкамі, чакаючы, што на гэты раз Танечка загадае пакласці газету на яе стол. І ён зробіць гэта з таемнай радасцю, і пакладзе газету так, каб Танечка, кінуўшы на яе свой позірк, адразу ўбачыла яго прозвішча. Аднак настаўніца, быццам баючыся перадумаць, хутка накіравалася да яго, выхапіла з рук газету і са злосцю парвала яе на шматкі...

*Прыходзячы ў бацькоўскую хату, у якой доўга не быў, пачынаеш разумець, што яна мае ўласцівасць адвыкаць ад цябе. Калі ты вярнуўся, а дома нікога няма, то, адмыкаючы дзверы, пераходзячы з пакоя ў пакой, адчуваеш ва ўсім затоеную насцярожанасць, з якою сустракаюць чужынца, яна сыходзіць ад сцен, ад кожнай рэчы, нават калі тая некалі была куплена ці змайстравана табой. Патрэбен час, каб гэтая насцярожанасць прайшла, каб масніцы, па якіх ступаеш, ручкі дзвярэй, за якія бярэшся, вопратка, у якую пераапранаешся, зноў прывыклі да цябе. Але прывыкнуць — яшчэ не значыць стаць тваім. Гэта як жанчына з часам можа прывыкнуць да цябе і нават пражыць з табою ўсё жыццё, але так і не стаць тваёю. Хата і ёсць жанчына, са сваім характарам, сваімі капрызамі, якой патрэбен свой гаспадар, без яго яна пачынае хварэць, хутка старэючы і разбураючыся. Таму для яе лепш мець гаспадара, якога яна не будзе любіць, але*

*будзе цярпець, час ад часу паказваючы свой нораў, нават шкодзячы яму, чым не мець ніякага.*

*Гэтаму мяне вучыў мой бацька, сёння вядомы ў вобласці будаўнік, расказваючы, як перад самым маім нараджэннем яны з маці купілі невялікую хатку, у якой да гэтага жыла, для нас, малых, цётка Алена, а для ўсіх астатніх — проста Алена, ці, за вочы, Зязюля, што з Богам размаўляла часцей, чым з суседзямі. Ніхто не ведае, пра што былі тыя размовы, але на пяцьдзесят сёмым годзе Аленінага жыцця Бог забраў яе да сябе. Сваякоў, прэтэндэнтаў на дзесяць сотак недагледжанай зямлі і хатку на два акенцы з прыбудоўкай пад хлеўчык, у яе не аказалася, і праз год і два месяцы пасля смерці Алены, 28 верасня 1970 года, у хатцы нарадзіўся я. Калі прыйшла зіма, халодная і злая, аказалася, што хата зусім не трымае цяпла, якое адразу ж знаходзіла шчыліны не толькі ў дзвярах і вокнах, але і, здавалася, у саміх сценах, таму, як пасля не раз казаў бацька, калі палілі ў печы, можна было грэцца і седзячы каля хаты на надворку. Праз гэта я ўвесь час хварэў, нават калі прыйшла вясна і пачало цяплець, і маці ў адчаі сказала, што стамілася, і ёй здаецца, што тэмпература ў мяне ўжо ніколі не спадзе. Дзіўна, але колькі памятаю сябе, мая звычайная тэмпература 36.9, і гэта заўсёды крыху бянтэжыць дактароў, калі я прыходжу ў паліклініку закрываць бюлетэнь. Праўда, апошнія гадоў трыццаць я хварэю вельмі рэдка.*

*Але тады не толькі мая прастуда трывожыла бацьку. Я кепска засынаў, прахопліваўся сярод ночы, нібы нечым напалоханы, і ён нарэшце сказаў, што трэба шукаць грошы і ставіць* ***сваю*** *хату.*

*Наша хата з'явілася праз чатыры гады, я кепска памятаю, як яе будавалі (што можна было рабіць аднаму — бацька рабіў адзін), але ведаю, што ў правым ад вуліцы вуглу пад першай падвалінай ляжыць пяцікапеечная манета — на шчасце. Праўда, бацька любіць паўтараць, што шчасце трэба шукаць не ў будучыні, а ў мінулым, і толькі той, хто там яго знаходзіць, жыве не дарэмна.*

*Як бы яно ні было, але ў новай хаце ў мяне з'явіўся свой пакой, я перастаў хварэць кожную зіму і прачынацца па начах.*

*Хата, дзе я нарадзіўся, стала хлеўчуком, але першае ж парася (у нас кажуць: парэсятка), якое бацька купіў дзякуючы таму, што яго лыжка за вячэрай заўсёды была лягчэйшая, чым мая, не пражыло і месяца, і ён вырашыў разабраць хляўчук па бярвеннях на дровы.*

*Бацька не рыхтаваў мяне да прафесіі будаўніка, але, ведаючы, што перадаваць іншым свае веды тое ж самае, што дзяліцца ў далёкай дарозе хлебам, ад чаго становішся больш сытым, чым калі б еў яго адзін, яшчэ малога прывучыў мяне глядзець на хаты як на жывыя істоты. І калі я першы раз заходзіў у чужую хату, адразу пачынаў прыглядацца да яе, як прыглядаюцца да незнаёмага чалавека, з якім давядзецца разам правесці пэўны час. На жаль, апроч бацькі, з якім я, пераехаўшы ў Мінск, бачуся вельмі рэдка, мне няма з кім пагаварыць пра хаты так, як гавораць пра людзей.*

*Я ўсё яшчэ, быццам гэта было ўчора, а не дваццаць пяць гадоў таму, памятаю адзін выпадак. У самым канцы нашай вёскі стаяла хата, якая кожны раз, калі я аказваўся непадалёк, прыцягвала мяне да сябе, як магнітам. Але на надворку жыў злосны, як мне здавалася ў мае дзесяць гадоў, сабака, які свой наедак сумленна адрабляў залівістым брэхам. Аднойчы маці сказала: «Пайшлі са мной да Гані: я адна баюся сабакі». У гэты момант я ўпершыню адчуў сябе дарослым і падумаў, што быць дарослым — значыць умець пераадолець у сабе страх, каб зрабіць нешта не для сябе самога, а для іншых. Гэтае адчуванне жыло ўва мне яшчэ некалькі хвілін пасля таго, як мы падышлі да Ганінай хаты, і гаспадыня, паколькі была на надворку, адразу загнала сабаку ў будку і прыкрыла дзірку засланкай, якой прыкрываюць печ, каб не ўцякаў дух. У гэты момант мне захацелася быць яшчэ больш дарослым, і я, сеўшы бокам на край лавы, што стаяла каля Ганінай хаты, прытуліўся шчакой да сцяны і сказаў:*

*— Ваша хата вельмі цяжка дыхае, відаць, яна моцна хворая.*

*Ганя паглядзела на мяне са шкадаваннем і звярнулася да маці:*

*— Нейкі ён у цябе як нездаровы. Хай бы больш з дзецьмі бегаў, а не сляпіўся над кніжкамі.*

*Праз тры месяцы, увосень, Ганя памерла, і я ўпершыню ўбачыў, як хата можа старэць проста на вачах.*

*Больш я ніколі не гаварыў пра хаты з чужым чалавекам, тым не менш, не перастаючы думаць пра іх, нібы яны былі жывыя. Я ўжо тады стаў у пэўным сэнсе калекцыянерам — чалавекам, які збірае — у памяці, вядома, — хаты, як потым — ужо наяве — стаў збіраць аўтаручкі. Калісьці, каб каму-небудзь перадаць свае назіранні так, як бацька і сёння яшчэ імкнецца перадаць мне свае, я абавязкова напішу пра хаты апавяданне. Пра хату, у якой гуляюць вяселле, і пра хату, у якой ляжыць нябожчык. Пра хату, у якой дзень ніколі не бывае даўжэйшы, чым ноч, і пра хату, у якой мужчынскі голас чуваць так рэдка, што пасля ён яшчэ доўга адзываецца ў ёй рэхам.*

*Вядома, у гэтым апавяданні я напішу і пра сваю родную хату, і, далібог, яна заслугоўвае таго, каб стаць у ім галоўнай гераіняй.*

*Калі я пераязджаў у Мінск, бацька сказаў:*

*— Чым больш ты пакінеш дома дарагіх табе рэчаў, тым больш будзеш хацець сюды вярнуцца. І ніколі не забірай усе іх — інакш ты сюды ўжо ніколі не вернешся.*

*Ён, як заўсёды, мае рацыю, і ў гэтыя хвіліны, седзячы ў трохпакаёвай мінскай кватэры, у якой у мяне ёсць свой рабочы кабінет, бібліятэка ў некалькі тысяч кніг (не лічачы электронных версій), нарэшце, DVD-прайгравальнік з калекцыяй у некалькі соцень любімых фільмаў, адным словам, у кватэры, дзе ёсць усе ўмовы і для працы, і для адпачынку, я думаю пра тое, што недзе за 180 кіламетраў ад Мінска, у невялікай вёсачцы Туровічы няма ніякіх умоў для творчасці, бо заставацца аднаму там можна толькі ў сне. Я думаю пра тое, што тэлевізар там ловіць усяго тры праграмы, а чытанне кніг нагадвае заняткі сексам без кахання. І ўсё ж я вельмі хачу туды, асабліва цяпер, у гэтыя хвіліны. Хачу так, як ужо даўно не хацеў. Я разумею, што віной гэтаму Танечка, як разумею і тое, што гэта часова.*

*Нягледзячы на тое, што некалі я вырашыў больш нічога не забіраць з вёскі сюды, у Мінск, з таго, што звязана з маім дзяцінствам, у свой апошні прыезд я паклаў у дарожную сумку сшытак па біялогіі для восьмага класа — той самы, у якім некалькі старонак спісаны Танеччынай аўтаручкай, і якой я цяпер пішу гэтыя радкі.*

*Я адвязу сшытак назад, як толькі закончу аповесць: там ён мне больш патрэбны, чым тут. Проста і ў мастацкім творы рэальныя даты і факты я заўсёды пераправяраю, і калі пішу, што ў кастрычніку ў восьмым класе мы праходзілі па біялогіі тэму «Будова і функцыі галаўнога мозгу», то так яно і павінна было быць насамрэч. Камусьці з чытачоў гэта падасца драбязой, непатрэбшчынай, але абавязкова знойдзецца і той, хто захоча пераправерыць які-небудзь факт, прыведзены ў творы. Можа нават пераправерыць, калі папраўдзе праходзілі тэму «Будова і функцыі галаўнога мозгу» ў восьмым класе ў 1985 годзе. Я павінен думаць і пра такога чытача. Дарэчы, якраз гэтую тэму мы праходзілі на ўроку, на якім Танечка на вачах усяго класа парвала газету з вершамі, пад якімі стаяла імя аўтара: Сяргей Васілевіч і назва школы: Федзюковіцкая СШ. Ці можна асуджаць юнага аўтара за тое, што, адчуўшы, як у душы ў яго ўсё закіпае, ён падумаў, што ніколі не даруе ёй гэтага?..*

## 4

Гісторыя з газетай здарылася ў пятніцу, а ў нядзелю раніцай ён зайшоў да сваёй аднакласніцы Ларысы Шацько, прыхапіўшы з сабой сшытак па алгебры з рэшанымі на панядзелак задачамі. Ларыса жыла ў былой пачатковай школе, усярэдзіне настолькі перaробленай, што цяпер цяжка было здагадацца, дзе ў ёй раней былі класы, а дзе настаўніцкая. У Ларысы ўжо сядзеў Валік Пранчук — са сваім сшыткам па алгебры. Пакуль яны спісвалі задачы, Сяргей гартаў тэлефонны даведнік, шукаючы побач з хатнімі нумарамі і адрасамі знаёмыя прозвішчы: Александровіч, Антановіч, Атрашкевіч... Байкоў, Барадзіна, Барэйша... Гурыновіч, Гурыновіч, Гурэвіч... Варатынец, Васілеўская... Далей тройчы паўтаралася прозвішча Высоцкі, і ў яго на сэрцы нібы пасяліліся адразу тры радасці, бо ў тры разы выраслі шансы на тое, што побач з адным з гэтых прозвішчаў указаны тэлефон Танечкі. Але які?

— Першы, — сказала Ларыса. — А ты што, хочаш пазваніць ёй?

Пазваніць? І што ён ёй скажа? Нічога не скажа — проста паслухае яе голас.

Ён зняў трубку і адчуў, як хваляванне паступова пагружае яго ў бязважкасць. Ларыса і Валік перасталі спісваць, яны глядзелі на яго так, быццам ён збіраўся даць нырца з высокага моста ў раку: варта яму перадумаць, і кожны палічыць яго баязліўцам.

Пасля чатырох ці пяці доўгіх гудкоў на тым канцы пачулася кароткае:

— Алё!

За нейкае імгненне ён паспеў падумаць, што дома ў яе зусім не такі голас, як на ўроку, і ў яго было адчуванне, што гэтым голасам яна не гаварыла ў трубку, а шаптала яму на вушка.

Сам не разумеючы, што з ім адбываецца, ён спытаў, крыху раблена, панізіўшы голас:

— Гэта Таня?

— Таня, — пасля кароткай паўзы сказала яна. — А з кім я гавару?

— Таня, я хачу з табой пазнаёміцца! Таму што я больш не магу без цябе, не магу кожны дзень бачыць цябе на вуліцы, не знаходзячы прычыны, каб падысці і загаварыць з табой! Мне адзінока без цябе!

Ён гаварыў і баяўся спыніцца, баяўся, што яна чакае паўзы, каб грозна (здзекліва, раздражнёна — як заўгодна!) сказаць: «Васілевіч, заўтра мы разам пойдзем да дырэктара, і там ты паўторыш тое, што толькі што сказаў мне».

— Можаш гаварыць мне што хочаш, толькі не кладзі трубку. Я і так не рашаўся пазваніць табе цэлы месяц.

Ён не ведаў, што яшчэ гаварыць ёй, і з жахам чакаў яе грознага прысуду.

Але яна засмяялася і сказала:

— Малады чалавек, я, між іншым, замужам.

— Тады... тады я ўкраду цябе! — амаль закрычаў ён, ахмялелы ад магчымасці ***так*** размаўляць са сваёй настаўніцай, і тут жа пачуў праз трубку незадаволены далёкі мужчынскі голас.

— З кім ты гаворыш?

— Не ведаю, напэўна, нехта памыліўся нумарам.

Голас яе таксама аддаліўся, і пасля гэтых слоў у трубцы пачуліся кароткія гудкі.

— Ты што, праўда з Танечкай гаварыў? — недаверліва спытаў Валік. — Афігець. Прыкінь, што было б, калі б яна пазнала твой голас.

Але цяпер, калі ў трубцы чуліся кароткія гудкі, яму раптам так захацелася, каб яна ведала, што гэта ён ёй званіў...

Ён не мог дачакацца яе ўрока. Ён прагна лавіў яе позірк, каб прачытаць у ім хоць маленькі намёк на тое, што яна здагадалася, хто гаварыў з ёй па тэлефоне. Але ў яе позірку чыталася толькі ранейшая гордая абыякавасць.

Ён сядзеў на перадапошняй парце, за яго спінай паміж радамі на перапынку Танечка прынесла і паставіла дыяпраектар. У другой палавіне ўрока яна сказала, што яны будуць глядзець дыяфільм па новай тэме: «Будова сэрца». На класную дошку павесілі белы цыратовы экран, вокны завесілі чорнымі шторамі. Святло дыяпраектара рынулася на экран. Праз шчыліны для цыркуляцыі паветра яно біла ва ўсе бакі, блішчэла маленькімі лужынкамі на бліжэйшых партах. Танечка нягучна каменціравала малюнкі дыяфільма, і голас яе быў вельмі падобны на той, у тэлефоннай трубцы. Яму было цяжка яго слухаць, цяжка было вытрымліваць побач з сабой у прыцемку яе блізкую прысутнасць, калі кожны рух яе суправаджаўся шамаценнем залацістай крэпавай сукенкі.

Не зусім усведамляючы, што робіць, ён аўтаручкай вялікімі лічбамі напісаў на левай далоні нумар яе хатняга тэлефона і паклаў руку даланёй угору ў лужынку святла на сваёй парце. Ён не мог бачыць, ці звярнула Танечка ўвагу на яго далонь, ён спрабаваў зразумець гэта па яе голасе, але голас па-ранейшаму быў роўны і спакойны.

— Пранцук, расхіні шторы, — сказала Танечка, як толькі закончыўся прагляд дыяфільма, а праходзячы міма яго, дадала такім жа загадным тонам: — А табе, Васілевіч, раю памыць рукі, усё-ткі ты вучышся ў восьмым класе, трэба ўжо ўмець сачыць за сабой.

## 5

Дома, у бацькоўскай хаце, мне не сядзелася. Я ўсё думаў пра Танечку, разумеючы, што не супакоюся, пакуль не буду ведаць прычыну яе нянавісці да мяне.

Пад вечар я пайшоў у суседнюю вёску, куды некалі хадзіў у школу. Неўзабаве пасля таго, як школу пабудавалі (вялікую, у тры паверхі), побач з ёй вырас шматкватэрны дом для настаўнікаў. Не забыліся і пра хлеўчукі ды месца для агародчыкаў. Праходзячы міма, мы, школьнікі, часта бачылі сваіх настаўнікаў у рабочым адзенні, то з вядром у руках, калі ішлі карміць сваю жыўнасць, то з матыкай ці лапатай, калі корпаліся на сваім агародчыку. Не думаю, што толькі ў маёй свядомасці гэтая карціна разбурала вобраз настаўніка, у якім было больш узвышанага, чым зямнога. Хто ведае, можа і маё каханне да Танечкі не было б на мяжы вар'яцтва, калі б я часта бачыў яе не толькі ў школе — у прыгожым, модным адзенні, але і каля гэтага настаўніцкага дома — у гумовых ботах, старой спадніцы, у хустцы, завязанай вузлом на патыліцы. Але Танечка была не такая, як астатнія мае настаўнікі: жыла ў горадзе, адкуль да школы трэба было дабірацца на прыгарадным аўтобусе, а пасля з кіламетр ісці пешшу, якраз праз нашу вёску, і не мела сваёй гаспадаркі.

Я націснуў кнопку званка крайняй кватэры. Тут жыла мая школьная дырэктарка, мілая, бяскрыўдная Вольга Міхайлаўна Максімчык. Цяпер яна ўжо была на пенсіі, што рабіла мой візіт да яе не такім бесцырымонным. Па-першае, вечарам ёй не трэба было рыхтавацца да школы, а па-другое, выходзячы на пенсію, людзі пачынаюць жыць больш мінулым, чым цяперашнім, а якраз мінулае ў гэтым доме я і шукаў.

Яна сустрэла мяне з гасціннасцю адзінокага чалавека, паставіўшы на пліту чайнік, нават не спытаўшы, ці буду я піць чай. Муж яе некалькі гадоў як памёр, дзеці, двое сыноў, з'ехалі: адзін — у Мінск, другі — у Віцебск. Зрэдку яны наведвалі яе, што ў выніку толькі абвастрала пачуццё адзіноты.

— Цябе не пазнаць, — сказала яна, а я ўспомніў, што ўчора нехта гаварыў мне якраз адваротнае. І пэўна, што кожны з іх меў рацыю. Але ў адказ я не мог сказаць ёй пра яе самую ні тое, ні другое, таму што і тое, і другое было б няпраўдай, і яна гэта ведала.

Таму я сказаў:

— У вас тут так прыгожа — нібы ў гарадской кватэры.

— На жаль, гэта гаворыць толькі пра тое, што цяпер у мяне шмат лішняга часу. А час не павінен быць лішнім — ён робіць жыццё бессэнсоўным. Ну, а як ты жывеш? Пішаш?

— Пішу. Вось збіраюся напісаць невялікую аўтабіяграфічную аповесць пра школу.

— О, мы тут усе з задавальненнем яе пачытаем.

— Ведаеце, пакуль што я збіраюся пісаць гэтую аповесць толькі для аднаго чытача — для самога сябе. А для аднаго пісаць у шмат разоў цяжэй, чым для тысячы, таму я яшчэ не ўпэўнены, што ў мяне нешта атрымаецца.

— Чаму толькі для самога сябе?

— Мой бацька пабудаваў для іншых шмат дамоў, але больш за ўсё любові і натхнення ўклаў у сваю хату, пабудаваную для сябе самога. Хату, у якую заўсёды хочацца вярнуцца, як толькі выходзіш на вуліцу і зачыняеш за сабой весніцы. Я таксама хачу напісаць аповесць, якую б мне хацелася ўвесь час трымаць на сваім рабочым стале. Мне шмат хто казаў, што па некалькі разоў перачытваў мае кнігі. Але сам я ніколі да канца не дачытаў ніводнай з іх — я іх памятаю толькі па рукапісах. Гэта як у той прымаўцы пра шаўца, які ходзіць босы.

— А калі аповесць атрымаецца: табе не будзе шкада, што яе не прачытаюць іншыя? У хату, якую пабудаваў твой бацька, таксама заходзяць чужыя людзі.

— Але каб зайсці ў кнігу, яе спачатку трэба набыць, зрабіць так, каб яна стала тваёй уласнасцю. Я ведаю, што калі б мой бацька прадаў сваю хату, ён ужо ніколі б не зайшоў у яе, таму што яна для яго стала б чужой. Як жанчына, з якой расстаешся, і яна дастаецца іншаму. Хто ведае, — засмяяўся я, — калі-небудзь, можа, і я прадам каму гэтую сваю аповесць, каб напісаць лепшую. І ў яе з'явіцца іншы гаспадар, які будзе лічыць яе сваёй.

На кухні засвісцеў чайнік, і мы перапынілі нашу размову.

— Я на днях бачыла Наташу, — сказала Вольга Міхайлаўна, ставячы перада мной на часопісны столік перад канапай колеру марскога пяску паднос з двума кубачкамі чаю і цукарніцай. У нашым класе былі тры Наташы, але я ведаў, якую з іх мае на ўвазе былая дырэктарка.

— Я чуў, у яе нейкія праблемы былі на працы.

— Ну якія праблемы ў бізнесменкі — грошы. Многія нашы вучні займаюцца бізнесам. Вось бачыш, як атрымліваецца: мы іх гэтаму на ўроках не вучылі, універсітэтаў яны ніякіх не заканчвалі, нярэдка таму, што не змаглі паступіць. Але яны сёння зарабляюць у некалькі разоў больш, чым іх настаўнікі... А яна пра цябе часта ўспамінае.

— Я пра яе таксама. Помніце, як тэхнічка прывяла мяне да вас у кабінет і сказала, што я лажу ў гардэробе па чужых кішэнях?

— Помню, а як жа.

— Тады вы сказалі, што потым пагаворыце пра гэта са мной, але так і не пагаварылі.

— Навошта? Я даведалася, чыя куртка табе спатрэбілася, і мне ўсё стала ясна. Між іншым, у той дзень мы з табой здзейснілі аднолькавае злачынства. Я таксама залезла ў кішэню Наташынай курткі. Праўда, я думала, што знайду там тваю запіску, а знайшла цукеркі. Я пераклала іх у іншую кішэню — без дзіркі. Але, у адрозненне ад цябе, я рабіла гэта ў прысутнасці сведкі.

— Тэхнічкі?

— Не, Наташы. Толькі я папрасіла, каб яна ніколі табе пра гэта не гаварыла. Дарэчы, яна стрымала сваё слова?

— Яна мне ніколі нават не намякнула пра гэта.

— Можа, яна і хацела калі табе намякнуць, але ты быў ужо закаханы ў іншую. Я тады яшчэ падумала, што ў табе залішне шмат кахання, якое ты можаш даць жанчыне. Нават больш, чым ёй звычайна трэба. І ў цябе яго заўсёды хоць крышку будзе заставацца для іншых. А ў школьным узросце людзі такога складу характару асабліва шчодрыя на каханне. Таму тады ў маім кабінеце мяне больш хвалявала не тое, што здарылася ў гардэробе — я не сумнявалася, што ты не здольны на такі ўчынак, — а тое, якімі вачыма ты глядзеў на сваю новую настаўніцу біялогіі.

Мы наблізіліся да самага галоўнага.

— Я кахаў яе вачыма, а не сэрцам, таму змог ацаніць яе знешнюю прыгажосць, але не здолеў убачыць тое, што творыцца ў яе ўсярэдзіне. Магчыма, яна па сённяшні дзень думае, што я злодзей.

— Ну чаму, потым я ёй сказала, што тэхнічка памылілася. Павер, без лішніх падрабязнасцей.

— Але ад гэтага яна не стала ставіцца да мяне лепш. Наадварот, цяпер мне здаецца, яна часам шкадавала, што я не аказаўся злодзеем.

Мне не хацелася расказваць маёй былой дырэктарцы пра сустрэчу з Танечкай на аўтобусным прыпынку, і я не стаў тлумачыць, чаму менавіта так мне цяпер здаецца.

— Тваё каханне да яе было вельмі агрэсіўным. Яна была зусім яшчэ маладая і не ведала, як гэтай агрэсіі супрацьстаяць. На жаль, гэтаму нельга навучыцца ва універсітэце, таму што на кожны канкрэтны выпадак мусіць быць свой падручнік. А пасля, яна была ўжо ў тым становішчы, калі спакой для жанчыны не прывілея, а неабходнасць. Дарэчы, яна павяла сябе вельмі годна, калі пасля ўсяго, што з ёю здарылася, не ўчыніла ніякага скандалу, не паскардзілася ў райана, а проста перавялася ў іншую школу. Зрэшты, калі б яна была ўпэўнена, што ***гэта*** зрабілі менавіта вы, хто ведае, як яна сябе павяла б.

— А што з ёй здарылася? — недаўменна спытаў я, адчуваючы, як словы пяском захрасаюць на языку.

— Ты хіба не ведаеш? Яна была на пятым месяцы, калі вечарам вы яе так напалохалі, што ад стрэсу яна ў выніку страціла дзіця.

## 6

Мы расстаёмся з дзяцінствам не тады, калі становімся паўналеткамі, а тады, калі перастаём разумець сэнс учынкаў, якія рабілі ў дзяцінстве. У трыццаць гадоў цягаць дзяўчынак за косы не тое што брыдка (у трыццаць мы часта робім рэчы куды больш брыдкія), проста перастаеш бачыць у гэтым дзеянні ўсялякі сэнс.

З пазіцый сённяшняга дня тое, што здарылася сакавіцкім вечарам 1985 года, было бессэнсоўным, але хіба яно здарылася б, калі б дваццаць гадоў таму так лічыў васьмікласнік Сяргей Васілевіч? Я разумею, што гэта не служыць яму апраўданнем, але паколькі цяпер у адносінах да яго я з'яўляюся адначасова і суддзёй, і адвакатам, мне гэтак жа цяжка абвінавачваць яго, як і апраўдваць. А калі і абвінавачваць, то разам з ім і яго сябрамі-аднакласнікамі — Валікам Пранчуком і

Віцьком Жытко, якія ў той злашчасны вечар былі побач, — на лаву падсудных павінна было б сесці вельмі шмат людзей, як жывых, так і памерлых, калі б іх для гэтай падзеі можна было ўваскрасіць. Вядома, ступень віны пераважнай большасці з іх у выніку была б прызнана мізэрнай, але трэба ўлічыць, што многія з гэтай большасці маглі б праходзіць у якасці падсудных у вельмі многіх падобных справах. А яшчэ невядома, што горш: быць крышку вінаватым тысячу разоў, ці вельмі — адзін раз.

Як і многія яго равеснікі, ён захапляўся фільмам «Д'Артаньян і тры мушкецёры», імкнучыся ва ўсім браць прыклад з чацвёркі галоўных герояў, не разумеючы: што тое, што ў кіно лічыцца геройствам, у рэальным жыцці можа кваліфікавацца як звычайнае злачынства, на якое многія прыгодніцкія фільмы, кнігі і правакуюць падлеткаў, што сляпа імітуюць прыдуманых высакародных герояў.

Ён ужо не раз прымяраў на сабе ўяўную мушкецёрскую форму, браў у рукі ўяўную шпагу і перамагаў уяўных ворагаў. Яму дастаткова было ўяўнага геройства, пакуль не з'явілася Танечка — рэальная, а не экранная Канстанцыя Буанасье, якой сваё геройства трэба было даказваць рэальнымі справамі.

І неўзабаве ён паспрабаваў зрабіць гэта.

У шасцідзесятыя гады на ўскрайку Туровічаў, на месцы, дзе ў вайну немцы расстралялі дзевяць вясковых жыхароў, паставілі помнік, побач з якім разбілі невялікі скверык. За дваццаць гадоў дрэвы выраслі, і пасля школы альбо ў выхадныя дзятва часта збіралася там пагуляць у пікара ці валейбол.

У той вечар ён разам з Віцьком Жытко пайшоў у скверык паглядзець, як Валік Пранчук будзе выпрабоўваць свой самапал. Баёк, зроблены з тонкага цвічка, пры ўдары ніяк не хацеў запальваць серку. Яны правалэндаліся з самапалам пакуль не стала зусім цёмна, можна было разыходзіцца па хатах, але заўтра пачыналіся канікулы, і дадому ісці не хацелася.

Гадзін у дзевяць вечара на дарозе з'явілася Танечка. Ён пазнаў яе здалёк. Ён пазнаў бы яе з тысячы — па хадзе, і з заплюшчанымі вачыма — па гуку абцасікаў. Хлапчукі прыціхлі, калі яна праходзіла міма, а потым ён прапанаваў:

— Можа, прагуляемся з ёю?

У гэты момант ён адчуваў сябе тым самым д'Артаньянам, які хоча паказаць сябе героем перад сваёй Канстанцыяй, але гэтаму д'Артаньяну было ўсяго пятнаццаць, і за яго спінай не стаяў Дзюма, каб падказаць, як сябе паводзіць.

— Ага, правядзём да кустоў, — заіржаў Валік.

Дарога, па якой ішла Танечка, праз кіламетр упіралася ў другую, да якой з абодвух бакоў падступалі зараснікі.

— Цішэй ты! — незадаволена шыкнуў ён на Валіка.

Яны дружна ўсхапіліся. Некалькі дзесяткаў метраў ішлі воддаль настаўніцы, тым не менш адлегласць паміж імі і ёю паступова змяншалася. Баючыся, што калі яны параўняюцца з Танечкай, Валік можа нагаварыць ёй усялякага глупства, ён ціха сказаў:

— Давайце абгонім яе.

— У-у-у! — голасна, па-воўчы завыў Валік і, нацягнуўшы на галаву куртку, каб Танечка яго не пазнала, кінуўся наперад. За ім, гэтак жа па-воўчы выючы, з нацягнутымі на галаву курткамі пабеглі яны з Віцьком.

Калі Танечка засталася далёка ззаду, яны спыніліся. Раптам Валік падняў угору свой самапал і націснуў на курок. Нечакана для ўсіх прагучаў аглушальны стрэл.

— Балда! — выдыхнуў Сяргей.

Яны разумелі, што зрабілі нешта непатрэбнае, лішняе, пераступілі мяжу, за якой цячэ іншае жыццё па іншых законах. Хацелася вярнуцца назад, у скверык, але яны баяліся, што калі зноў параўняюцца з Танечкай, яна іх пазнае. Калі павярнуць з дарогі направа, да вёскі, Танечка таксама здагадаецца, што яны адсюль, з Туровічаў, а значыць, здагадаецца, хто яны. Злева ад дарогі быў калгасны палетак, снег толькі што растаў, і на палетку цяпер было гразка. Заставалася ісці наперад, у бок прыпынку, каб дзе-небудзь у зарасніках кустоў перачакаць, калі Танечку падбярэ прыгарадны аўтобус…

## 7

Ідучы на выступленне, я не ўяўляў, што буду гаварыць. Я знарок выйшаў рана, каб да горада ісці пешкі. Многія лічаць, што думкі ўвесь час жывуць недзе ў нас. Насамрэч, яны трапляюць да нас праз наш зрок — і не важна, ці мы пры гэтым глядзім на дарогу, на чалавека, ці зазіраем у сваё мінулае. Ёсць думкі, якія круцяцца вакол нас як мухі. А ёсць капрызныя, нібы пчолы, што дзесяць разоў падумаюць, перш чым заляцяць да цябе. Але якраз такія думкі мне былі патрэбныя, а каб злавіць іх, патрэбен быў дарожны спакой, а не аўтобусная таўкатня.

У горадзе, хоць да пачатку выступлення была яшчэ амаль гадзіна, я адразу накіраваўся ў школу, зайшоў у настаўніцкую, дзе за сталом сядзеў мой аднакласнік Андрэй Несцяровіч, той самы, што арганізаваў тут сустрэчу са мной, і гартаў класны журнал. У мяне яшчэ цеплілася надзея, што да гэтага часу канфлікт паміж незнаёмым мне хлапчуком і настаўніцай уладжаны, і я магу пагаварыць са школьнікамі, не засяроджваючы на ім увагі.

Але Андрэй сустрэў мяне пытаннем:

— Ну што, падумаў, як будзеш выхоўваць юнага папарацы?

Я нявесела ўсміхнуўся:

— За папарацы будучыня. Сёння гэта аорта шоу-бізнесу, заўтра — палітыкі, а паслязаўтра... а пра паслязаўтра ў такім кантэксце лепш не думаць.

— Ну-ну, толькі не ўздумай гэта сказаць нашаму герою, а то маладыя настаўніцы будуць баяцца хадзіць на ўрокі. Дарэчы, ты ведаеш, чый ён сын?

«О Божа, — падумаў я, — толькі гэтага мне не хапала. Хутчэй за ўсё, сын якога-небудзь мясцовага чыноўніка. Цяпер зразумела, чаму ім займаецца не міліцыя, а няшчасны пісьменнік».

— Гэта сын Танечкі. Ну, памятаеш нашу біялагіцу ў восьмым класе? Яна папрацавала толькі год, а пасля звольнілася.

Кожнае яго слова ўва мне адгукалася рэхам, быццам у маёй душы ў гэтую хвіліну было зусім пуста.

Я ведаў, што які б настрой у мяне не быў перад выступленнем, нават зусім паскудны, што выклікае

апатыю і паралізуе ўсялякае мысленне, у самы апошні момант я змагу сканцэнтравацца і сказаць нешта важнае — важнае для мяне, тое, што я хацеў бы, каб пачулі мае слухачы. Не мае значэння, як яны гэта ўспрымуць — адразу ці, магчыма, да іх гэта дойдзе праз дзень, праз месяц, праз год, праз дзесяць гадоў. Будаўнік, пабудаваўшы шматкватэрны дом, ніколі не зойдзе паглядзець, як жывуць у ім людзі. Для яго важна не гэта, а тое, што ён зрабіў усё, ***залежнае ад яго***, каб ім жылося там утульна.

Перш-наперш трэба было знайсці вачыма таго хлапчука, з-за якога яны тут сабраліся. І я знайшоў яго. Не мог не знайсці, бо тварам той быў вельмі падобны на сваю маці — на Танечку. Звычайны хлапчук. Па ўсім відаць, крыху ганарлівы і самаўпэўнены, але сёння без гэтага вельмі цяжка ў жыцці.

— Я хачу пагаварыць з вамі пра каханне. Часам можна пачуць, што дарослым з васьмікласнікамі пра гэта гаварыць рана. А мне здаецца, наадварот — позна. Чым больш жыве чалавек, тым больш яго ўяўленне пра каханне скажаецца, і дарослае каханне ніколі не бывае настолькі чыстым, бескарысным, як каханне школьнае. У восьмым класе я быў закаханы ў сваю настаўніцу. Ёй было ўсяго дваццаць два гады, і яна была вельмі прыгожая. Я часта ўспамінаю яе, кожны раз малюючы ў сваім уяўленні яе партрэт. І, на жаль, кожны раз ён атрымліваецца ўсё больш далёкім ад арыгінала. І я ўсё больш адчуваю сябе ў гэты момант не мастаком, а рэстаўратарам, разумеючы, што кожная новая рэстаўрацыя толькі аддаляе мяне ад маёй настаўніцы, а значыць, і ад майго дзяцінства. На жаль, у мяне няма яе фатакарткі, і ніколі не будзе: фота дапамагае спыняць час і нават паварочваць яго назад. Я чуў, што ў вашай школе настаўніца падала заяву на звальненне, калі яе сфатаграфавалі на ўроку. Сфатаграфавалі так, як яна гэтага не хацела б. Мне здаецца, што калі не цяпер, то потым яна пашкадуе, што напісала заяву. Яна таксама вельмі прыгожая, і ёй няма чаго саромецца. Дзяўчынкі ёй могуць толькі зайздросціць, а хлапчукі ёю могуць толькі захапляцца. Але і той, хто фатаграфаваў яе, я думаю, ужо сёння шкадуе, што цяпер пра гэта ведае ўся школа і што з-за гэтага ён можа ніколі больш не ўбачыць сваю настаўніцу. Што

яму больш не давядзецца так хваляваццa, ідучы да дошкі на ўроку беларускай літаратуры. Хвалявацца не таму, што як след не падрыхтаваўся да ўрока, а таму, што яго выклікала ***яна***.

Я гаварыў ім пра іх настаўніцу так, быццам добра ведаў яе. Хоць насамрэч ніколі не бачыў, нават на фотаздымку. Але ў гэты момант яна сапраўды стаяла перада мной, у маім уяўленні. Як дзве кроплі вады падобная на Танечку...

*Я збіраю шарыкавыя аўтаручкі. У мяне іх шмат — самых розных па форме і па колеры. І ў маёй калекцыі ніколі не бывае дзвюх аднолькавых аўтаручак. Можа, я і нядрэнны калекцыянер, таму што, напрыклад, не раскручваючы аўтаручку, магу вызначыць, калі ў ёй амаль не застаецца чарніла. Дарэчы, у гэтай аўтаручцы стрыжань таксама ўжо амаль пусты. Уся прычына ў тым, што калі я працую, то вельмі шмат крэслю. Зрэшты, мне трэба толькі зрабіць у рукапісе яшчэ некалькі правак і паставіць унізе сваё імя і дату. Калі, вядома, да гэтага моманту чарніла ў аўтаручцы зусім не скончыцца...*